

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 18 (119) | 29 лістапада 1931 г. | № 18 (119)



## ЗЬМЕСТ

Постановы Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.



---

## Пастановы Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

Зацьверджана Народным
Камісарам Земляробства
БССР т. Рачыцкім.

### 85. Палажэньне аб тэхнічным дырэктары по вэтэрынарнай частцы (вэтурачу) у жывёлагадоўчых саўгасах.



1. Тэхнічным дырэктарам па вэтэрынарнай частцы ў жывёлагадоўчым саўгасе зьяўляецца старшы вэтурач саўгасу.

2. Тэхнічны дырэктар па вэтэрынарнай частцы (вэтурач) назначаецца дырэктарам саўгасу і зацьвярджаецца праўленьнем жывёлагадоўчага трэсту ці ўстановы.

3. У сваёй працы тэхнічны дырэктар па вэтэрынарнай частцы (вэтурач) робіць справаздачу перад дырэктарам саўгасу.

4. У апэрацыйнай працы тэхнічны дырэктар па вэтчастцы дзейнічае на падставе існуючага вэтэрынарнага заканадаўства, вэтэрынарных правіл, распараджэньняў, інструкцый і палажэньняў, выдаваемых НКЗ БССР або даваемых вэтгрупай трэсту ці райвэтінспэктарам.

5. Тэхнічны дырэктар па вэтэрынарнай частцы (вэтурач) нясе адказнасьць за пастаноўку вэтсправы ў саўгасах, за сваечасовае правядзеньне прафіляктычных і супроцьэпізоатычных мерапрыемстваў, за санітарнае становішча саўгасаў, за вэтэрынарнае абслугоўваньне злучной кампаніі і правядзеньне штучнага асеменяненьня, за карантынаваньне пры камплектаваньні статку, за пастаноўку лекавай справы, за ўцілізацыю трупаў здохлай жывёлы, за правільнае скарыстаньне вэтпэрсаналу, а таксама сочыць за становішчам эпізоатыі вакол саўгасу і ў выпадку неабходнасьці прымае належныя меры.

6. Тэхнічны дырэктар па вэтэрынарнай частцы (вэтурач) удзельнічае: 1) у складаньні вытворча-фінансавага пляну саўгасу; 2) у абгаварэньні пляну будаўніцтва і наглядае за яго ходам, 3) у распрацоўцы правіл уходу, эксплёатацыі і ўтрыманьня жывёлы; 4) у распрацоўцы кармовых норм, 5) у распрацоўцы пляну камплектаваньня статку і транспартыроўцы жывёлы; 6) у распрацоўцы пытаньня па здачы таварнай прадукцыі; 7) у падрыхтоўцы кадраў падсобнага пэрсаналу, 8) ва ўсіх тэхнічных і вытворчых нарадах саўгасу.

7. Тэхнічны дырэктар па вэтчастцы (вэтурач) адказвае за вучот усіх праводзімых мерапрыемстваў у саўгасе і за сваечасовае прадстаўленьне справаздач па гэтых мерапрыемствах, як устаноўленых у самым саўгасе, так і патрабуемых вэтгрупай, сваім трэстам ці праўленьнем і райвэтінспэктарам.

8. Тэхнічны дырэктар па вэтчастцы (вэтурач) складае паводле зацьверджаных вытворча-фінансавых плянаў і каштарысных асыгнаваньняў, заяўкі на вэтснабжэньне, сочыць за сваечасавым атрыманьнем яго і кантралюе правільнасьць расходаваньня.

9. Увесь вэтпэрсанал саўгасу (вэтурачы, вэтфэльчары, прышчэпшчыкі, дэзынфэктары, санітары і інш.) знаходзяцца ў непасрэдным падпарадкаваньні тэхнічнага дырэктара па вэтчастцы саўгасу.

10. Прыём, звальненьне і перамяшчэньне сярэдняга і падсобнага вэтпэрсаналу робіцца дырэктарам саўгасу па ўзгадненьні з тэхнічным дырэктарам па вэтэрынарнай частцы саўгасу.

УВАГА. Перамяшчэньне, прыём і звальненьне вэтурачаў жывёлагадоўчага саўгасу робіцца дырэктарам саўгасу па ўзгадненьні з тэхнічным дырэктарам па вэтчастцы, і з наступным зацьверджаньнем жывёлагадоўчым трэстам і ўзгадненьнем з НКЗ.

11. Тэхнічнаму дырэктару па вэтчасьці (вэтурачу) жывёлагадоўчага саўгасу даецца права за парушэньне вэтсанітарнага палажэньня ў саўгасе накладваць пакараньні, звальняць і прыцягваць да адказ-

насьці младшы тэхнічны пэрсанал, абслугоўваючы жывёлагадоўлю саўгасу, а таксама прадстаўляць да прэміяваньня з наступным зацьверджаньнем дырэктарам саўгасу.

Кіраўнік Вэтсэктару НКЗ БССР **Грузакоў.**

24 кастрычніка 1931 г.
№ 463.

Зацьвярджаю. Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Масюкоў.**
30 кастрычніка 1931 г.

**86. Палажэньне аб Дзяржаўнай Вэтэрынарнай Інспэктуры.**

1. Для арганізацыі кантролю за правядзеньнем вэтэрынарна-санітарных правіл, а таксама нагляду за выкананьнем правіл карантынізацыі арганізуецца ў складзе гарадзкіх зямельных аддзелаў Дзяржаўная Вэтэрынарная Інспэктура (раённыя або гарадзкія вэтінспэктары) і ў дапамогу ёй грамадзкая вэтэрынарная інспэктура.

2. На Дзяржаўнчую Вэтэрынарную Інспэктуру ўскладаецца нагляд:

а) за выкананьнем правіл карантынаваньня і ізаляцыі;

б) за ўтрыманьнем і доглядам за жывёлай і птушкай і за ўмовамі эксплёатацыі рабочай і прадукцыйнай жывёлы;

в) за выкананьнем норм па вырашчваньні і ўтрыманьні маладняку;

г) за становішчам вэтэрынарнага абслугоўваньня ў саўгасах, калгасах і калгасных таварных фэрмах, базах, пунктах нарыхтовак як жывёлы, так і жывёльнае сыравіны, у галіне забясьпечаньня вэтпэрсанала вэтэрынарнымі памяшканьнямі, вэтснабжэньнем і абсталяваньнем;

д) за перавозкай жывёлы на транспарце, дэзапрамывачнымі станцыямі, за пунктамі пагрузкі і выгрузкі жывёлы і жывёльнае сыравіны, за пунктамі вадапою і інш. вэтэрынарна-санітарнымі ўстановамі, за вэтэрынарным становішчам мясакамбінатаў, халадзільнікаў, бэконных фабрык, рэзьніц, забойных пунктаў, каўбасных і мяса-кансэрвных заводаў, уцільзаводаў і ўцільустаноў, складаў скур і скурзаводаў, шэрсьцяапрацоўваючых прамысловых устаноў і інш. у галіне выкананьня імі вэтсанітарных правіл.

3. Раённыя і гарадзкія вэтінспэктары праходзяць па штату раённага альбо гарадзкога зямельнага аддзелу (па належнасьці) і выконваюць сваю працу пад непасрэдным кіраўніцтвам і кантролем загадчыка апошняга, у адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі і мерапрыемствамі Народнага Камісарыяту Земляробства. Агульны нагляд за дзейнасьцю раённых і гарадзкіх вэтінспэктараў застаецца за Народным Камісарыятам Земляробства (вэтсэктар), перад якім яны і робяць справаздачу ў сваёй працы ў тэрміны і па формах, устаноўленых апошнім.

4. У абавязкі раённых і гарадзкіх вэтінспэктароў, апроч пералічаных у арт. 2, уваходзяць:

а) складаньне раённых альбо гарадзкіх эпізоатычных плянаў і кантрольных лічбаў па вэтэрынарыі;

б) кантроль за выкананьнем гэтых плянаў з боку вэтпэрсаналу і гаспадарчых органаў;

в) нагляд за ходам вэтбудаўніцтва;

г) складаньне агульных лічбаў і запісаў аб ходзе эпізоатыі ў раёне і горадзе;

д) рэгуляваньне пабудовы вэтсеткі ў раёне і горадзе паводле дырэктыў НКЗ;

е) нагляд за плянавым вэтснабжэньнем усіх вэтустаноў ў раёне і горадзе;

ж) распрацоўка мерапрыемстваў для палепшаньня становішча вэтсанітарнай справы ў раёне і горадзе праз ужываньне сацыялістычных форм і мэтадаў працы сярод вэтпэрсаналу, а таксама нагляд за захаваньнем каляктыўнага дагавору;

з) нагляд за сваечасовым выкананьнем пастаноў Ураду і стаячых вышэй органаў па пытаньнях вэтэрынарыі ў раёне і горадзе;

і) адказнасьць за вэтэрынарна-санітарнае становішча ў раёне і горадзе.

5. Раённаму альбо гарадзкому вэтінспэктару, у межах іх кампэтэнцыі, падпарадкоўваецца ўвесь вэтпэрсанал у раёне і горадзе.

6. Дзяржаўная вэтэрынарная інспэкцыя мае права прад'яўляць неабходныя запатрабаваньні аб зьнішчэньні заўважаных на месцы недахопаў і прыцягваць за парушэньні і невыкананьне дзейнічаючага вэтэрынарнага заканадаўства да адміністрацыйнай і судовай адказнасьці.

7. У дапамогу райвэтінспэктару ў саўгасах і калгасах, таварных фэрмах, рэзьніцах і ўсіх інш. прадпрыемствах, пералічаных у арт. 2 гэтага палажэньня, з рабочага актыву і актыву калгасьнікаў, а ў гарадох, у дапамогу гарадзкому інспэктару,—з рабочых актываў заводаў і прадпрыемстваў, у парадку сацсаўмяшчальнасьці, арганізуецца дабравольная гарадзкая вэтэрынарная інспэктура.

8. Грамадзкая вэтэрынарная інспэктура праводзіць сваю працу (арт. 2) пад кіраўніцтвам Дзяржаўнай Вэтінспэктуры пры дапамозе вэтпэрсаналу і карыстаецца тымі-ж правамі, што і Дзяржінспэктар.

Кіраўнік Вэтсэктару НКЗ БССР **Грузакоў.**

### 87. Пра зацьверджаньне статуту Беларускага Дзяржаўнага. Трэсту садова-гародных савецкіх гаспадарак „Белсадгародтрэст“.

Зацьвердзіць прыкладзены да гэтае пастановы статут Беларускага Дзяржаўнага Трэсту садова-гародных савецкх гаспадарак „Белсадгародтрэст“.

Даручыць Дырэктару Трэсту правесьці рэгістрацыю статуту ва ўстаноўленым законам парадку.

21 лістапада 1931 г.
№ 709

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР **Масюкоў.**

Дадатак.

# СТАТУТ

## Беларускага Дзяржаўнага Трэсту садова-гародных савецкіх гаспадарак „Белсадгародтрэст“.

### І. Агульныя палажэньні.

1. Для далейшае спэцыялізацыі сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі ўсе прамысловыя савецкія гаспадаркі садова-гародняга напрамку аб‘ядноўваюцца ў дзяржаўны трэст рэспубліканскага значэньня пад назвай: „Беларускі Дзяржаўны Трэст Садова-Гародных Савецкіх Гаспадарак „Белсадгародтрэст“, які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

2. У склад Трэсту ўваходзяць саўгасы садова-гароднага напрамку, з усімі знаходзячыміся на іх тэрытэрыі тэхнічнымі прадпрыемствамі, як: млыны, масласырзаводы, бровары, пільні і інш. заводы, вадзяныя абшары, знаходзячыяся на тэрыторыі трэставаных саўгасаў, нетры ў межах тэрыторыі саўгасаў для эксплёатацыі агульна-распаўсюджаных выкапняў, паводле палажэньня аб нетрах і распрацоўцы іх, лясныя вучасткі, знаходзячыяся на тэрыторыі саўгасаў, ці датыкаючыяся да іх, якія адводзяцца ім са складу лясоў мясцовага значэньня, навучальныя ўстановы.

3. Белсадгародтрэст утварае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на пачатках гаспадарчага разрахунку ў адпаведнасьці з палажэньнем аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і з плянавымі заданьнямі, якія даюцца НКЗ БССР. З моманту рэгістрацыі статуту Белсадгародтрэсту яму прысвайваюцца правы юрыдычнае асобы. Белсадгародтрэст мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

4. Белсадгародтрэст мае сваёй мэтай: а) рэпрадукцыю пладоў і гародніны для харчаваньня, перапрацоўкі і экспарту, б) вытвар садова-ягаднага пасадачнага матарыялу і насеньня гародніх культур, в) арганізацыю тэхнічнай перапрацоўкі пладоў і гародніны.

5. Для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 4, Белсадгародтрэст на базе ўваходзячых у яго сыстэму савецкіх гаспадарак, а таксама і тых, якія могуць быць яму перададзены, новых зямельных вучасткаў і гаспадарак:

а) арганізуе буйныя плодагародныя гаспадаркі;

б) засноўвае буйныя пладова-ягадныя пітомнікі па вырасьліваньню пасадачнага матарыялу;

в) засноўвае буйныя насенныя гароды па вырасьліваньню гароднага насеньня:

г) будуе прадпрыемствы па перапрацоўцы пладоў і гародніны;

д) арганізуе розныя дапаможныя прадпрыемствы і галіны гаспадаркі, забясьпечваючыя і дапамагаючыя рэнтабельнаму вядзенью спэцыялізаваных у садова-гароднім напрамку савецкіх гаспадарак і

е) арганізуе падрыхтоўку кваліфікаваных кадраў праз адчыненьне навучальных устаноў і правядзеньне спэцыяльных курсаў.

6. У практычнай дзейнасьці Белсадгародтрэст арганізуе работы па вырашэньню саўгасамі наступных задач:

а) павялічэньне валавой і таварнай прадукцыі,

б) патаненьне сабекошту прадукцыі,

в) павялічэньне вытворчасьці працы,

г) павялічэньне ўраджайнасьці,

д) барацьба са стратамі і дасягненьне максымальнай рэнтабельнасьці ўсіх галін гаспадаркі і асобных сельска-гаспадарчых працэсаў.

7. Для вырашэньня паказаных у арт. 6 задач Белсадгародтрэст праводзіць мерапрыемствы:

а) па ажыцьцяўленьні пашырэньня зямельнай тэрыторыі саўгасаў да найбольш рацыянальных разьмераў;

б) па арганізацыі тэрыторыі гаспадаркі ў цэлым і яе асобных галін у напрамку максімальнага выкарыстоўваньня ўсіх прыродных і эканамічных магчымасьцяў;

в) па пераводу бросавых зямель ва ўжытковыя;

г) па арганізацыі вытворчых працэсаў на базе навейшых дасягненьняў агра-тэхнікі, у максымальнай ступені ўнядраючы мэханізацыю гэтых працэсаў;

д) па ўжываньні камуністычных форм і мэтадаў працы;

е) па жорсткім захоўваньні прынцыпу гаспадарчага разрахунку;

ж) па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчасьці;

з) па арганізацыі і правядзеньні мерапрыемстваў арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня навакольных калякт ыўных гаспадарак, без парушэньня прынцыпу гаспадарчага разрахунку.

8. За свае абавязанасьці Трэст адказвае толькі сваёю маемасьцю, якая паводле чынных законаў можа спаганяцца.

9. Трэст можа рабіць на ўсёй тэрыторыі Саюзу ССР і БССР усе апярацыі, у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных ў арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст удзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

10. Трэст уладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенаю яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выняткаў, паказаных у Палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

11. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі і каперацыйнымі арганізацыямі, якія ўдзельнічаюць, як контрагэнты.

12. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле чынных законаў.

### II. Статутны капітал Трэсту.

13. Статутны капітал Трэсту вызначаецца асобна і зацьвярджаецца Наркамземам па ўзгадненьні з Наркамфінам БССР.

### III. Кіраўніцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

14. Для кіраваньня Трэстам Народны Камісарыят Земляробства БССР назначае Дырэктара і 2-х яго намесьнікаў.

15. Дырэкцыя Трэсту знаходзіцца ў гор. Менску.

16. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад наглядам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю аперацыйную работу Трэста, кіруючы справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні, і робячы ўсе дагаворы і апярацыі, якія належаць да кампэтэнцыі Трэсту.

17. Да кампэтэнцыі Дырэкцыі ў паасобку належыць:

а) арганізацыя вытворчасьці і кіраваньне дзейнасьцю ўсіх прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у склад Трэсту;

б) зацьвярджаньне палажэньняў аб кіраваньні вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту, на падставе статуту Трэсту і палажэньня, зацьвярджанага НКЗ БССР;

в) складаньне і прадастаўленьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня вытворча-фінансавых плянаў, пляну пабудовы новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня і пераабсталяваньня існуючых;

г) падача для зацьверджаньня ў Народны Камісарыят Земляробства БССР праекту важных зьмен зацьверджаных плянаў і інш. (п. „в“);

д) складаньне і падача ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт;

е) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці паводле ўстаноўленай сыстэмы і справаводзтва;

ж) найманьне і звальненьне служачых і рабочых, заключэньне калектыўных і паасобных працоўных дагавороў;

з) найманьне, здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі;

і) адчужэньне і пабудова новых будынкаў, пабудоў і абсталяваньня, таксама зьнішчэньне старых і нягодных будынкаў.

На адчужэньне і заставу права забудоўкі патрэбен абавязкова дазвол НКЗ БССР;

к) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 гадоў, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР. Узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў дапушчаецца толькі з дазволу НКЗ БССР незалежна ад тэрміну;

л) страхаваньне маемасьці Трэсту;

м) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў і вядзеньне крэдытных апярацый;

н) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту згод, актаў і дагавораў, у тым ліку дагавораў падраду і пастаўкі і выдача даверанасьцяй;

о) удзел з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР у арганізацыі сындыкатаў, акцыйных (паявых) таварыстваў і інш.

гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў і набываньне іх акцый і паёў, а таксама ўдзел у сындыкатах, канвэнцыях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

п) прававаньне на судзе і прадстаўніцтва ў асобе Дырэктара або яго Намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, бяз выдачы ім асобнай даверанасьці, або праз даверанаых асоб, упаўнаважаных спэцыяльнымі даверанасьцямі, ва ўсіх адміністрацыйных установах, і ў службовых асоб.

20. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер уста, наўляецца Дырэкатарам. Усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы, даверанасьці падпісваюцца Дырэктарам або яго Намесьнікам.

Дырэктар Трэсту мае права ўпаўнаважыць даверанасьцю кожнага супрацоўніка Трэсту для падпісаньня тых ці іншых дакумэнтаў. Дакумэнты грашовага характару падпісваюцца і галоўным Бухгальтарам Трэсту.

21. Дырэктар і яго Намесьнік павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і прыцягваюцца паводле чынных законаў, да дысцыплінарнай, крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці за цэласьць даручанай маемасьці і за гаспадарчас вядзеньне спраў.

### IV. Кіраваньне вытворчымі прадпрыемствам і, якія ўваходзяць у склад Трэсту.

22. Беспасрэднае кіраваньне паасобнымі вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад Трэсту (арт. 2), ажыцьцяўляецца дырэктарамі, якія вызначаюцца і звальняюцца Дырэктарам Трэсту і дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраваньні даным прадпрыемствам, зацьвярджаемага Дырэктарам Трэсту, і даверанасьці, выданай Дырэктарам Трэсту.

### V. Спэцыяльныя капіталы Трэсту.

23. Апроч статутнага капіталу ўтвараюцца:

а) амартызацыйны капітал;
б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў;
в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;
г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;
д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;
е) фонд прэміраваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

24. Амартызацыя маемасьці Трэсту робіцца паводле арт. арт. 44 і 34 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 года.

25. Вызначэньне размеру прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне прыбыткаў і вызначэньне адлічэньняў ад прыбытку ў спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, папаўненьне страт, а таксама выдатаваньне спэцыяльных капіталаў робіцца паводле арт. арт. 46—49 таго-ж палажэньня.

### VI. Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

26. Штогод, не пазней як праз тры месяцы пасьля заканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня, Дырэктар падае ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для разгляду і зацьверджаньня складзеныя, паводле ўстаноўленых законам правіл, справаздачу, балянс і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, а таксама праект папаўненьня страт і разьмеркаваньня прыбыткаў, паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Адклад тэрміну паданьня справаздач і балянсаў дазваляецца ў парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці

27. Зацьверджаньне балянсу і разьмеркаваньне прыбыткаў і і страт Трэсту публікуецца Дырэктарам у парадку, устаноўленным правіламі публічнай справаздачнасьці.

28. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца Народным Камісарыятам Земляробства БССР. Дырэктар павінен паказваць належным органам НКЗ БССР, для абгляду ўсе кнігі і дакумэнты, справы і перапіску і рабіць ім усялякую дапамогу пры рэвізіі і абсьледваньні дзейнасьці Трэсту.

29. Апроч выпадкаў, дакладна вызначаных чыннымі законамі, іншыя органы, апроч НКЗ БССР, маюць права ў межах сваёй кампэтэнцыі даваць Дырэктару Трэсту паказаньні і патрабаваць ад яго педаньня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз Наркамзем БССР.

### VII. Зьмена Статуту Трэсту.

30. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу або іншыя зьмены ў гэтым статуце робяцца паводле арт. арт. 11 і 14 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

### VIII. Спыненьне дзейнасьці Трэсту.

31. Трэст спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем, злучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 55—64 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Нам. Народнага Камісарыята Земляробства БССР **Масюкоў**.

Адказны рэдактар **С. Лодысеў**.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА. Галоўлітбел № 294. Зак. № 793—5350.

